www.nv-online.info

№ 33 (4080)

29 красавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СТАЛА ВЯДОМА...

## 11 верасня – парламенцкія выбары

Дату ўзгадніў Аляксандр Лукашэнка пасля нарады, прысвечанай удасканальванню выбарчага заканадаўства.

Паводле слоў кіраўніка ЦВК Лідзіі Ярмошынай, плануецца, што выбарчая кампанія стартуе 7 чэрвеня гэтага года, а 8 чэрвеня ЦВК зацвердзіць план арганізацыйных мерапрыемстваў, бюджэт выбараў, межы тэрытарыяльных акруг.

ПРАТЭСТ!

## Крок адчаю

*Учора ў цэнтры Мінска 25-гадовы віцябчанін забраўся на вежавы кран у знак пратэсту супраць таго, што яму доўгі час не выплачваюць заробак.*



Хлопец узлез на кран на стадыёне "Дынама", дзе зараз праходзіць рэканструкцыя, каля 14.00. Разам з ім наверсе застаўся і кранаўшчык. Паводле папярэдніх звестак, малады чалавек такім чынам вырашыў прыцягнуць увагу да сваёй праблемы. Ён аддзелачнік, прыехаў у Мінск з Віцебскай вобласці, па месцы работы яму некалькі месяцаў не выплачвалі заробак.

На месцы здарэння дзяжурылі супрацоўнікі МНС, "хуткай дапамогі" і міліцыі. Апошнія ад любых каментарыяў адмаўляліся: маўляў, ідуць перамовы.

Увогуле, было відаць, што хлопцу тэлефанавалі сілавікі, з кімсьці звязваліся будаўнікі... Праз дзве гадзіны ўніз спусціўся кранаўшчык.

*"Я ведаю столькі ж, колькі і вы*, – распавёў мне прэс-сакратар упраўлення МНС па Мінску **Віталь Дэмбоўскі.** – *Але сітуацыя не крытычная, перамовы вядуцца".*

Праз некалькі гадзін "пратэстнай акцыі", прыкладна ў 18.30, віцябчанін спусціўся ўніз, і ім заняліся адпаведныя структуры. Пра тое, ці атрымае хлопец свой заробак, нам пакуль таксама не вядома.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СА СВЯТАМ!

## «Няхай рассеюцца нянавісць і злосць, варожасць і сваркі, усялякія раздзяленні!»

*(З Пасхальнага паслання Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла)*



Міласцю Божай мы дасягнулі светлага дня Пасхі!

Радасная песня аб Уваскрасенні Хрыстовым гучыць і ў кожным з нас: мы радуемся таму, што адбылася найвялікшая падзея – Хрыстос Збавіцель Сваёю смерцю знішчыў саму смерць: *«Сіло парвалася – і мы выратаваны. Дапамога наша ў імені Госпада»* (Пс. 123: 7–8). Радуемся мы і таму, што нам, якія веруюць у Яго, Ён завяшчае жыццё вечнае.

Будзем жа радавацца, таму што мы маем цудоўную і непахісную аснову нашай веры – Уваскрасенне Хрыстова! Ва Уваскрасенні Хрыстовым – абяцанне, што смерць на зямлі – не канец жыцця, што смерць сілаю Божаю пераадольваецца. Ва Уваскрасенні Хрыстовым – пачатак нашага асабістага ўваскрасення. Як смяротныя мы падаем, але як бессмяротныя ўваскрасаем у жыццё вечнае з Хрыстом Збавіцелем. Няхай гэтая радасць нашага агульнага ўваскрасення ўмацоўвае нас, дапамагае пераадольваць цяжкасці, з якімі нам давядзецца яшчэ сустрэцца на жыццёвым шляху.

Падзелімся з усімі блізкімі і дальнімі радасцю аб Уваскрэслым Збавіцелі, радасцю магчымасці яднання з Ім. І тады і ў нас саміх, і ў навакольным свеце мы ўбачым змены да лепшага.

Сёння гэта надзвычай неабходна, таму што ў шэрагу краін хрысціяне перажываюць ганенні, параўнальныя з тымі, што былі ў раннія вякі хрысціянства, а часта і большыя за іх. «Руская Праваслаўная Царква з болем успрымае гэтую бяду, – кажа яе Прадстаяцель. – Калі падзеі і далей будуць развівацца ў падобным рэчышчы, то сляды прысутнасці хрысціянства могуць практычна знікнуць там, дзе яно калісьці зарадзілася і існуе ўжо два тысячагоддзі... Як браты па веры, мы павінны падтрымліваць адзін аднаго ў цяжкі момант, узвышаць свой голас як адзіная Святая Саборная і Апостальская Царква». Няхай уваскрэсне Бог у сэрцах людзей, і няхай рассеюцца нянавісць і злосць, варожасць і сваркі, усялякія раздзяленні! *«Няхай усе будуць адно: як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так няхай і яны ў Нас будуць адно»* (Ін. 17: 21).

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры! Будзем жа бясконца дзякаваць Богу за тыя дары, якія мы атрымалі праз прышэсце ў свет Яго Адзінароднага Сына. Няхай Пасхальны трыумф заўсёды жыве ў нашых душах і сэрцах і жывіць іх, няхай гэтай бясконцай радасцю напаўняецца і пранікаецца ўсё наша жыццё. Жыватворная дапамога Божая няхай садзейнічае кожнаму з нас у далейшай працы на славу нашай Царквы, на славу нашай зямной Бацькаўшчыны, на дабро ўсім, хто мае патрэбу ў нашай увазе і клопаце.

Віншую ўсіх вас са святам Святой Пасхі Хрыстовай і малітоўна жадаю вам і вашым блізкім светлай пасхальнай радасці, усёпераможнай надзеі, моцы душэўных і цялесных сіл!

СІТУАЦЫЯ

## Статкевіча пакінулі без правоў

Экс-кандыдата ў прэзідэнты і былога палітвязня **Мікалая СТАТКЕВІЧА** пазбавілі правоў кіроўцы. Такое рашэнне прыняў суд Ленінскага раёна Мінска. Падставай для гэтага сталі дзесяць штрафаў, накладзеных на яго за ўдзел у несанкцыянаваных уладамі акцыях пратэсту. Сам палітык лічыць штрафы незаконнымі і прынцыпова іх не аплачвае. У лік пагашэння трох штрафаў у Статкевіча спаганяюць 50% яго ваеннай пенсіі. Яшчэ раней у яго адключылі мабільны тэлефон. Цяпер улады ўжылі такую меру, як пазбаўленне правоў кіроўцы. На думку палітыка, гэта чарговая спроба ўціску.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ФАКТ

## У Беларусь – без візы, у Арабскія Эміраты – з візай

Беларусь увяла бязвізавы рэжым для грамадзян Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, якія прыехалі ў нашу краіну не больш як на 30 сутак. Спецыяльны ўказ падпісаў Аляксандр Лукашэнка.

Аднак беларусы ў гэтую краіну без візы паехаць не могуць. Аднаразовая віза ў ААЭ каштуе для нас 60 долараў, а калі афармляць праз турфірму, то 85 долараў. Шматразовая на паўгода і ўвогуле "залатая" – 630 (!) долараў.

Дарэчы, згодна з указам Лукашэнкі, гасцям з Эміратаў не спатрэбіцца дазвол і для транзіту праз тэрыторыю Беларусі, а таксама для знаходжання не больш за 30 сутак – у выпадку праходжання праз міжнародныя пункты пропуску. Тым не менш грамадзяне ААЭ павінны будуць рэгістравацца па месцы фактычнага часовага знаходжання.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

БЛІЦ

*Напрыканцы мая – на пачатку чэрвеня ў Беларусі, магчыма, пройдзе чарговы Усебеларускі народны сход. У мінулым нумары "Народнай Волі" чытач **Сяргей Курыловіч** прапанаваў апазіцыі і палітычным партыям, аб'яднанням дэмакратычнага накірунку рубам паставіць перад уладамі пытанне: калі сход усебеларускі, то на ім павінны быць дэлегаты ад самых розных груп насельніцтва.*

## Ці збіраецеся Вы дэлегаваць сябраў сваёй партыі альбо руху на Усебеларускі народны сход? Якія захады робіце для таго, каб яны не проста засвяціліся на мерапрыемстве, але і выступілі з трыбуны сходу?

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

– Намераў спрабаваць трапіць на Усебеларускі народны сход у нас няма. АГП нават не будзе спрабаваць кагосьці туды вылучаць. Чаму? Таму што мы за беражлівасць. Мы лічым, што сродкі, якія ў чарговы раз пусцяць на падарункі для "прызначаных" дэлегатаў, лепш накіраваць туды, дзе яны сапраўды патрэбны. А патрэбны яны ў раёнах, што найбольш пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, у дзіцячых хоспісах...

А "хурал", які ў чарговы раз спрабуе склікаць улада, даўно ператварыўся ў падман беларусаў. Гэта міф, імітацыя таго, што ў Беларусі ўсё добра. Няхай бы дэлегаты мінулага падобнага мерапрыемства адказалі на два простыя пытанні: дзе абяцаная сярэдняя зарплата ў 1000 долараў і дзе прыток прамых замежных інвестыцый у беларускую эканоміку? Нагадаю, гэтыя і іншыя пункты былі прыняты на мінулым падобным сходзе. Нічога ж не выканана з таго, што было задэкларавана. Таму браць удзел у чарговым спектаклі няма ніякага сэнсу.

**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ, экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі, старшыня руху "За Свабоду":**

– Мы не збіраемся вылучаць сваіх прадстаўнікоў на Усебеларускі народны сход. У мяне ёсць вялікія сумневы, што там увогуле будзе прадстаўлена апазіцыя. Для чаго нам напрошвацца на чужое вяселле? Калі цябе туды не запрашаюць, ты туды і не пойдзеш.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ, старшыня Партыі БНФ:**

– Наколькі нам вядома, на сённяшні дзень няма ніякай канкрэтыкі наконт гэтага мерапрыемства. Проста агучана, што Усебеларускі народны сход мае адбыцца. Але не вядома, дзе і калі. Таму пакуль няма прадмету для абмеркавання і прыняцця рашэння. Аднак у тым выпадку, калі сход адбудзецца, наша партыя будзе спрабаваць вылучыць свайго дэлегата на мерапрыемства. Такі варыянт мы ўнутры партыі абмяркоўвалі. У выпадку, калі наш чалавек туды трапіць, то, я мяркую, ён слова на сходзе атрымае. Галоўнае – трапіць...

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі, старшыня ствараемага руху "За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі":**

– Не, не збіраюся я нікога туды дэлегаваць і сам туды трапляць не збіраюся. Таму што на гэтым сходзе ніколі нічога не вырашалася і вырашацца не будзе. У свой час, было гэта ў 2010 годзе, я рабіў захады, каб трапіць на Усебеларускі народны сход. У маю падтрымку было сабрана 20 тысяч подпісаў выбаршчыкаў. Чым гэта скончылася, помніце? Нічым. І мне, і тым людзям, якія за мяне тады падпісаліся, адмовілі. Таму ў гэты раз я нават спрабаваць трапіць туды не буду.

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя":**

– Ніякіх дэлегатаў мы туды вылучаць не будзем. У свой час Аляксандр Казулін і Уладзімір Някляеў спрабавалі трапіць на так званы Усебеларускі народны сход. Для першага гэта скончылася збіццём, а другога нават на парог не пусцілі. Рэжым паказвае, што ягоны "Усебеларускі народны сход" – гэта шырма, за якую толькі "сваіх" пускаюць і за якую "чужым" нельга трапіць. Адпаведна, ніякіх захадаў мы рабіць не будзем.

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, старшыня грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!":**

– Мы не збіраемся вылучаць сваіх дэлегатаў на Усебеларускі народны сход. І першай прычынай для такога рашэння з'яўляецца тое, што сход гэты – піяр-акцыя з боку ўлады. Прыйсці туды проста гледачамі, быць тымі, хто будзе пляскаць у ладкі... Мы не бачым у гэтым ніякага сэнсу. Беларуская ўлада магла б пераймаць нейкія рэчы ад сваіх расійскіх калег. У Расіі апошнім часам праводзяцца форумы прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці. У іх бярэ ўдзел і ўлада, і апазіцыя, і іншыя зацікаўленыя бакі... У нас жа на падобных мерапрыемствах няма дыялогу. Усё адбываецца ў выглядзе маналогу. І пасыл такі: я гавару – вы слухаеце і выконваеце. Гэта не дыялог. І браць удзел у такім мерапрыемстве мы не будзем.

**Ірына ВЕШТАРД, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– Не, нікога мы туды вылучаць не будзем. Для чаго? Для таго каб данесці сваю пазіцыю? Вам не смешна? Я не бачу ў гэтым ніякага сэнсу. Гэта ж нічога не дасць. Хто нам там дазволіць выказацца? Там дэлегаты ўсе праўладныя. А ісці туды для таго, каб паслухаць, як у нас усё добра, гэта проста губляць час.

**Сяргей КАЛЯКІН, старшыня партыі "Справядлівы свет":**

– Вы ж зразумейце: мы туды не зможам трапіць у прынцыпе. Дэлегаты на гэтае мерапрыемства адбіраюцца па нейкай закрытай, непразрыстай сістэме. І нічога "народнага" ў гэтым мерапрыемстве няма. Мы нават не будзем спрабаваць вылучыць туды людзей ад "Справядлівага свету". Я вам раскажу гісторыю пра тое, як на першы Усебеларускі народны сход спрабаваў трапіць тагачасны старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі – другая асоба ў дзяржаве на той момант. Нават яго тады не пусцілі. Якая размова можа ісці пра тое, што некага нелаяльнага да ўлады туды прапусцяць? Сам гэты сход – нейкі анахранізм. Я разумею, прадстаўнікі народа – дэпутаты, а гэтыя дэлегаты – хто яны? За што яны адказваюць? Так званы Усебеларускі народны сход не з'яўляецца палітычным інстытутам. Напрымалі на мінулым сходзе рэзалюцый, тэзісаў, арыенціраў – і што? Прынялі, правалілі ўсе гэтыя паказчыкі, нічога не выканана. Гэтых дэлегатаў, якія рукі падымаюць, нават выбраць нельга, яны ні за што не адказваюць, таму гэты Усебеларускі народны сход павінен быць ліквідаваны. Раз і назаўжды.

**Апытанне праводзіў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПО ПОВОДУ



Мария ЭЙСМОНТ

## Жемчуг мелок?

Недавно Александр Лукашенко обеспокоился зарплатами госчиновников. Назвал их не просто низкими – нищенскими. *«Это же не нормально, что у нас госслужащий получает нищенскую зарплату. Нищенскую по сравнению с окружением. Вот они сидят, иногда на меня смотрят. Я неуютно себя чувствую, когда на совещании в правительстве перед ними оправдываюсь»*, – ну разве что не плакал Лукашенко.

К подобным словесным вывертам с высоких трибун мы за 20 с небольшим лет вроде как привыкли. А все равно невозможно сдержать возмущение.

Ну, во-первых, потому, что не такие уж нищенские зарплаты у наших министров, депутатов, председателей исполкомов разных уровней. С разными премиями, бонусами как минимум тысячу долларов в месяц имеют. Легко подсчитать на примере экс-руководителя Минской области Бориса Батуры. Его пенсия – около 15 миллионов, а это по президентскому указу – 70 процентов от зарплаты действующего председателя облисполкома. Так что 21 миллион ежемесячного дохода Шапиро, Лис и другие имеют. На фоне обнищания страны эта сумма выглядит внушительно. Во всяком случае она как минимум в четыре раза больше зарплаты учителя и в три – средней по стране.

Но зарплата – это ведь не единственная благодарность государства чиновникам за их труд. Есть еще служебные авто, причем не «Джили» и «Волги», а «Мерседесы», «Фольксвагены», «БВМ», и заграничные командировки за государственный счет, и пенсии госслужащих, которые наступают почему-то на 5 лет раньше, чем трудовые по возрасту, и даже персональная лечебница, где нет изнуряющих очередей к врачу, записей на обследования и прочих "прелестей" бесплатной медицины. Одним словом, особый мир. Попав туда, ни один еще по доброй воле в отставку не попросился.

Во-вторых, глядя со стороны, жизнь наших высокопоставленных чиновников нищей ну никак не назовешь. И даже скромной не назовешь. Достаточно посмотреть на их коттеджи в Дроздах. Некоторые, как Прокопович с Ермаковой, умудрились даже по два справить. И за какие такие доходы, получая нищенскую, как выразился президент, зарплату, все это добро они нажили? Ведь никто из этих слуг народа не встал и не рассказал, как у него так ловко получается вроде как и немного зарабатывать, но красиво жить. Научили бы народ, что ли?!

Кто-то, конечно, может возразить, даже пристыдить: некрасиво в чужой карман заглядывать. Кто-то может найти оправдание такой разнице в уровне жизни простых людей и «государевых»: мол, работа руководителя, а тем более уровня министра или «губернатора», требует большей ответственности, забирает больше времени. Может, оно и так, и даже – правильно. Во всем мире это естественная практика, и в Европе, и в Америке не за 300 долларов вкалывают министры и бургомистры. Но ведь там и народ, которому они служат, не живет на 300 долларов. Там учитель, не говоря уже о профессоре, враче или юристе, зарабатывает не намного меньше, а то и больше чиновника. Там гражданин, у которого есть стабильная работа, имеет возможность взять ипотеку или кредит под невысокий процент и жить в неплохом домике или уютной квартире, у него машина, не «подобранная» у россиянина или литовца, а из салона, у него есть гарантии, что впереди нормальная и понятная старость, а не пенсия, которой скоро и на лекарства с едой не хватит. Там чиновники каждый год отчитываются перед народом о зарплатах-квартирах-машинах, а наши решили, что публиковать такие декларации *«не совсем этично» «Зачем это делать? Удовлетворять обывательский интерес о том, у кого что есть?» – заявил* генпрокурор Александр Конюк, и поправки в антикоррупционный закон о том, чтобы чиновники не скрывали от народа сведения о своих доходах, депутаты вносить не стали.

Наконец, там именно *люди* решают, достоин ли тот же губернатор своей зарплаты. И если решат, что недостоин, то могут «попросить» – просто не избрать на новый срок. А мы можем? Что мы вообще можем?..

Сейчас оказывается, что зарплата чиновника-бюджетника в 21 миллион – это нищенская зарплата. А учительская в 5,6 миллиона, как выразилась вице-премьер Наталья Кочанова, «*это неплохой уровень*». И даже месячная оплата труда молодого тренера в 1,3 миллиона не позор для страны, а «ситуация», которую молодой специалист должен понимать.

Так что все эти недавние стенания Александра Григорьевича о нищенских зарплатах чиновников – не более чем лукавство. И ничего, кроме раздражения, вызывать не могут. Хотя, ясное дело: тем, у кого жемчуг мелок, сложно понять тех, у кого щи пусты...

